


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны




№4 (155), САКАВІК 2013 ГОДА


**Цытата нумара:**

**Большасць тыранаў выйшлі, уласна кажучы, з дэмагогаў, якія набылі давер народы тым, што чарнілі знатных**

**Арыстоцель**

МЕРКАВАННЕ

# ШМАТГАЛОВЫ ЦМОК

Заўважаю апошнім часам, што людзей у інфармацыйнай прасторы цікавяць пераважна тры з'явы на "с" – секс, спорт і смерць. Так ці інакш інтарэс абываццеля круціцца пераважна вакол гэтых трох тэмаў, пацвярджае гэта просты аналіз найбольш чытаных матэрыялаў на інтэрнэтных старонках. На пазамінулым тыдні ў цэнтры ўвагі апынулася смерць камандантэ Баліварыянскай Рэспублікі Уга Чавэса. Калі смерць якога-небудзь чалавека выклікае такую буру эмоцый, гэта сведчыць пра выразна нездаровую рэакцыю. Насамрэч заканчэнне зямнога шляху венесуэльскага кіраўніка выклікала ў адных прыпадкі істэрычнай жалобы, а ў іншых непрыхаваную радасць. Абедзве рэакцыі сведчаць як пра нездаровае ўспрыманне гэтай асобы, так і пра заганнасць чалавечай прыроды. Уга Чавес не прынёс нічога новага ў гэты свет, ён быў зацятым, і напэўна шчырым апалагетам левай ідэі, утапічнай ідэі сацыяльнай роўнасці, як і мноства ягоных папярэднікаў, якіх было нямала ў свеце ўвогуле, і на лацінаамерыканскай зямлі ў прыватнасці. Для многіх насельнікаў Венесуэлы ён быў бацькам, чалавекам, які падмяніў сабой Бога і стаўся чарговым ідалам. З яго смерцю для гэтых людзей надышла асабістая трагедыя, плачучы па правадыру, яны плачуць па сабе, бо ня ўпэўненыя, што дзяржава і надалей накорміць іх, дасць веру ў "светлую будучыню".

Венесуэла з яе надзвычай спрыяльным прыродным кліматам і багатымі радовішчамі нафты магла б стаць адной з сама заможных на кантыненце. Аднак, насамрэч была і ёсць адной з бяднейшых у Паўднёвай Амерыцы. Левая ідэя спараджае ня толькі эфемерную прагу да усеагульнай роўнасці, ня толькі імкненне да татальнай экспрапрыяцыі, але і адбівае жаданне працаваць, выбівацца ў больш заможныя, развітыя. Яна спараджае паразітызм, звычку да таго, што дзяржава мусіць забяспечыць чалавека ўсім патрэбным, што гэта яе святы абавязак. Чавес сапраўды быў больш справядлівы за сваіх папярэднікаў, ён даў гэтую класічную мінімальную базу бальшыні жыхароў сваёй краіны – хлеба і відовішчаў. За Чавесам венесуэльцы ўжо не галадалі, а відовішчы ў выглядзе найперш шматгадзінных палымяных прамоваў забяспечваў таксама сам камандантэ. А зараз гарантыі, што дзяржава гэта будзе прадстаўляць і надалей няма – ідал памёр, вось і плачуць.

Уго Чавэс шчыльна сябраваў з кіраўнікамі Кубы, Ірану, Беларусі, Расіі. Дружба гэтая была досыць дзіўнай і нават парадаксальнай. Бо нармальнае сяброўства зазвычай грунтуецца на еднасці поглядаў, ідэалаў, каштоўнасцяў. Тут жа асноўным грунтам, сутнасцю сяброўства была нянавісць, найперш антыамерыканізм. Бо што яшчэ магло яднаць антыімперыяліста Чавеса і наскрозь імперскі Крэмль, які працягвае аднаўляць сваю "турму народаў"?! Што магло яднаць Чавэса, які любіў публічна хрысціцца з апантаным ісламскім фанатыкам Ахмадзінежадам?! Хіба толькі неўміручы Фідэль з "вострава свабоды" быў венесуэльскаму кіраўніку сапраўды блізкі ідэалагічна.

Смерць венесуэльскага рэвалюцыянера выклікала і амаль істэрычную радасць у вялікай колькасці людзей. Рэакцыя беларусаў у сацыяльных сетках была проста бурлівай. Радавацца смерці чалавека – ненатуральна, растлумачыць гэта можна толькі падсвядомым імкненнем пазбавіцца ад несвабоды, "дыктатуры пралетарыяту", свайго пажыццёвага правадыра. Маўляў, чарговы дыктатар пайшоў "туды". Людзі, нават досыць адукаваныя і разумныя, чамусьці вельмі персаніфікуюць зло. Але ж "тры галавы ўпала, а колькі новых вырасла" – як казаў літаратурны персанаж класічнага твора. Крыважэрныя "бацькі народаў" Ленін і Сталін жывыя, пакуль у Крамлі хаваюць гістарычную праўду пра іх злачынствы і адраджаюць СССР, "Вялікі кормчы" Кітаю жывы, пакуль "калектыўны Мао" сядзіць у Пекіне і будуе "развіты сацыялізм". Павешаны Хусэйн жывы ў Іраку, замардаваны Каддафі жыве ў Лібіі пакуль у гэтых краінах масава здзяйсняюць тэрарыстычныя акты і квітнее нянавісць да людзей. "Цмок" гэты шматгаловы, разнастайны, хітры і часта прыхаваны.

Так што ўсё толькі пачынаецца…

**Уладзімір Хільмановіч**



## 25 САКАВІКА...

Дваццаць пятага сакавіка —
Годны дзень
Беларускай дзяржавы.
Веснаплынных вятроў талака
Пыл з кароны атрэсла іржавы.
Шматавалі нас досыць арлы
І з адной, і з дзвюма галавамі.
Мы не зь нейкай бязроднай імглы,
Нас вякі як сваіх
Гадавалі.
Мы — ратаі святла,
Крывічы,
Верхачы неўміручай Пагоні.
Маладзік сакалом на плячы,
Гартны меч у цьвярдое далоні.
Лучыць нашыя мары рака
Бел-чырвона-белага сьцяга.
Дваццаць пятага сакавіка —
Наша сьвята,
Пароль
І прысяга!



**Рыгор Барадулін**

ПРАБЛЕМА ГАСПАДАРАННЯ

# ЧАРГОВАЯ СПРОБА ЎЦЯГНУЦЬ У ГАСПАДАРЧУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ

**Віцебскі абласны выканаўчы камітэт прыняў чарговае рашэнне аб уцягненні ў гаспадарчую дзейнасць невыкарыстоўваемай маёмасці. Гарадоцкі раён з'яўляецца адным з лідэраў па колькасці невыкарыстоўваемых аб'ектаў маёмасці.**

Невыкарыстоўваемыя аб'екты маёмасці назапашваліся ў вобласці ўжо другое дзесяцігоддзе, але толькі ў апошнія гады сталі рабіцца афіцыйныя спісы па ўцягненню гэтай маёмасці ў гаспадарчую дзейнасць. Пры дзяржаўным прэсінгу на прадпрымальніцкую дзейнасць, адсутнасці прававой дзяржавы, няпэўных інвестыцыйных умоў гэта працэс ідзе марудна і не эфектыўна.

Фонд "Віцебскаблмаёмасць" ажыццяўляе дзейнасць па ўцягненню гэтай маёмасці ў гаспадарчы абарот. На яго сайце маюцца спісы, як невыкарыстоўваемай маёмасці ў адміністратыўных адзінках Віцебшчыны, так і спіс маёмасці, якую належыць уцягнуць у гаспадарчы абарот у 2013 годзе. Гэта пераважна аб'екты розных форм дзяржаўнай уласнасці, але маюцца аб'екты і прыватнай уласнасці.

Пры гэтым акрамя галоўнага спосабу ўцягнення – прадажы, больш шырока стала прапаноўвацца дармовая перадача аб'екта новым гаспадарам. Але гэта форма набыцця новага ўласніка не датычыцца аб'ектаў, якія прапаноўваюцца ў Гарадоцкім раёне.

Наогул, у абласным спісе невыкарыстоўваемай маёмасці па колькасці аб'ектаў Гарадоцкі раён займае лідзіруючае месца. Найбольшая колькасць такіх аб'ектаў маецца ў Полацку і аднайменным раёне – 48, у Пастаўскім раёне – 29, а на Гарадоччыне – 27. Усяго ў гэтым спісе па вобласці 278 аб'ектаў, а прадаць у 2013 годзе на Віцебшчыне запланавана 408 аб'ектаў.

Гарадоцкі раён у гэтым спісе вылучаецца і самай вялікай колькасцю аб'ектаў, якія належаць аддзелу адукацыі. Зараз зацікаўленым структурам прапануецца набыць будынкі пустуючых адукацыйных установаў: Вярэчскай, Руднянскай, Пралетарскай, Гарадоцкай базавай, Обальскай, Гуркінскай, Газьбінскай школ, Межанскага дзіцячага садка. У мінулым годзе ужо спрабавалі прадаць будынкі Обальскай, Газьбінскай школ, але на аукцыёне пакупнікоў не знайшлося. Мала шанцаў, што пустуючыя аб'екты знойдуць новых гаспадароў і ў гэтым годзе. Бо у краіне адсутнічаюць умовы спрыяльныя для прыватнага бізнесу.

Са спісам невыкарыстоўваемых аб'ектаў магчыма азнаёміцца па спасылцы: www.fond-gosim.vitebsk.by/property/komm-pere4en-2013.pdf

**Л. Антонаў**

НАША САЛІДАРНАСЦЬ

# "...АЦАЛЁНЫ БОЖАЮ СІЛАЮ."

**Леанід Гаравы, актывіст Руху "За Свабоду!", атрымаў чарговы ліст з гарадзенскай турмы ад палітычнага вязня Зьміцера Дашкевіча.**

Леанід Гаравы працяглы час вядзе сістэматычнае ліставанне з палітычнымі вязнямі, накіроўваючы ім амаль штомесячна лісты, а таксама віншавальныя паштоўкі. Найбольш актыўна ліставанне вядзецца зМікалаем Аўтуховічам, Міколай Статкевічам, Алесем Бяляцкім, Зміцерам Дашкевічам.

У дасланым лісце актывісту Руха "За Свабоду" Зьміцер Дашкевіч выказаў падзяку за пастаянную падтрымку, а таксама за віншаванні для яго і Насты ў сувязі са шлюбам.

У папярэднім адзінаццатым лісце да мужнага вязня Леанід Гаравы пытаўся пра стан здароўя Зьміцера, бо стала вядома, што ён пакутвае на болі ў шыі і мае неабходнасць яе лячэння. Дашкевічнапісаў, што раней былі "абвастрэнні зімовыя, але цяпер усё добра -- ацалёны звышнатуральнай Божаю сілаю. Ну і, канешне, мясцовымі лекарамі."

Актывіст Руху Гаравы заўважае, што атрыманы лістад палітычнага вязьня новага фармату -- са словамі Маці Тэрэзы ў правым верхнім куту: "Людзі бываюць неразумны, нелагічны і эгаістычны. Усё роўна даруйце ім..." Дарэчы, як заўжды, ліст ад Зьміцера са схемай бел-чырвона-белага сцяга. Наконт адзначэння Дня Волі 24 чысла на Бангалоры Дашкевіч са скрухай заўважыў: "як казаў адзін лірычны герой, бабушка прыехала".

Зараз Зміцеру Дашкевічу засталося знаходзіцца ў няволі амаль шэсць месяцаў – да 28 жніўня гэтага году. Арыштаваны Зьміцер Дашкевіч разам з Эдуардам Лобавым 18 снежня 2010 перад галасаваннем быццам бы за хуліганства, асуджаны на 2 гады зьняволення ў калоніі агульнага рэжыму. Знаходзіўся у выпраўленчых установах Жодзіна, Горак, Магілёва, Віцебска, Глыбокага, дзе 28 жніўня 2012 г. ў закрытым судзе атрымаў дадаткова год за "злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі калоніі". Пасля адбываў пакаранне ў Мазыры, дзе быў абвінавачаны ў непадпарадкаванні і парушэнні рэжыму і ў лістападзе пераведзены ў спецтурму №1 г. Гродна, 230025, вул. Кірава1.

ПЕРАШКОДЫ ДЛЯ КУЛЬТУРЫ

# ТВОРЧАЯ СУСТРЭЧА Ў ГАРАДКУ АДМЕНЕНА

**Вядомыя беларускія дзеячы культуры гісторык, эсэіст, паэт Уладзімер Арлоў і спявак, музыка Зьміцер Вайцюшкевіч 11 сакавіка збіраліся наведаюць Гарадоцкую школу мастацтваў і сустрэцца з аматарамі культуры. Але мясцовыя чыноўнікі пасля паведамлення на http://haradok.info сустрэчу адмянілі**

Гэтыя творчыя асобы не патрабуюць асаблівага прадстаўлення для гарадакчан, бо ужо неаднаразова наведвалі Гарадоччыну з творчымі візітамі.

Пад час сустрэчы Уладзімер Арлоў планаваў распавесці аб сваіх кнігах выдадзеных у апошнія гады: "Пакуль ляціць страла", дзе сабраны адказы на сто пытанняў, зададзеных пісьменніку пад час сустрэчаў у бібліятэках і каля вогнішчаў, выступаў на кватэрніках і ва ўніверсітэтах. Распавядзе пра "Імёны Свабоды" - зборніка эсе аб змагарах. Безумоўна, нельга было пакінуць без увагі кнігу, якую спадар Уладзімір прэзентаваў напярэдадні зімы "Краіна Беларусь. Вялікае княства Літоўскае" – ілюстраванае выданне з еўрапейскім друкам аб гісторыі Беларусі. І як звычайна класік беларускай літаратуры адкажа на пытанні ўдзельнікаў сустрэчы.

Зміцер Вайцюшкевіч — вядомы беларускі музыка, лаўрэат прэмій рок-каранаванне, выканаўца года, удзельнік гуртоў «Палац», «Kriwi», заснавальнік і мастацкі кіраўнік гурта «WZ orkestra». Вайцюшкевіч самы актыўны беларускамоўны выканаўца зараз рыхтуе да выданьня свой 17-ы па ліку дыск пад працоўнай назвай «Беларускі шансон». У яго ўвойдзе 12 твораў на словы Генадзя Бураўкіна, напісаныя ў асноўным на турэмную тэматыку. У выканаўцы даўно было ў плянах запісаць дыск у шансон-стылі на турэмную тэматыку. «Гэта будзе не шансон у разуменьні французскім, не шансон у разуменьні расейскім, а менавіта беларускі шансон», — патлумачыў Зьміцер у інтэрвію Tuzin.fm.

У пэўнай ступені гэты альбом тэматычна будзе працягваць апошнюю працу «Ваячак», бо і тут, і там гаворка вядзецца «пра чалавека, які апынуўся ў цяжкіх жыцьцёвых абставінах». Але ёсьць і адрозьненьне, бо новы дыск будзе больш разьлічаны на масавую аўдыторыю, таму тут будзе менш музычных экспэрымэнтаў.

Сустрэча планавалася ў межах культурніцкай кампаніі "Будзьма", якая дапамагае жыхарам правінцыі спаткацца з дзеячамі беларускай культуры. На жаль мясцовыя чыноўнікі не жадаюць пашырэння беларускай культуры і сустрэчу адмянілі.

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

***********

Наша газета "Гасцінец" стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/hasciniec.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.

***********

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

***********

Рэдакцыя шукае дабраахвотных распаўсюджвальнікаў газеты "Гасцінец", а таксама аўтараў публікацый. Магчыма узаемавыгаднае супрацоўніцтва. Звяртацца на тэлефон рэдакцыі.

ПАМЯЦЬ

# МАСКВА РАЗВІТАЛАСЯ З АНДРЭЕМ ПАНІНЫМ

**У разнастайнай акцёрскай біяграфіі Андрэя Паніна была і Гарадоцкая зямля. Тут Панін здымаўся ў антытаталітарным фільме Аляксандра Колбышава "Ваўкі"**

Здымкі ўнікальнага для "Беларусьфільма" аньтаталітарнага фільма "Ваўкі" праходзілі ў лютым-сакавіку 2009 года ў в. Андроненкі Гарадоцкага раёна. Творчая група фільма больш за месяц пражывала ў гасцініцы "Раўбічы". Разам з Паніным ў фільме былі задзейнічаныя вядомыя расійскія акцёры Дзмітрый Ульянаў, Уладзімір Гасцюхін. Андрэй у фільме граў ролю галоўнага карніка-гэбіста з халодна-пранізлівым позіркам і кашлем з соплямі. Фільм атрымаў прэміі на розных міжнародных фестывалях, але ў Гарадку так і не паказваўся.




Андрэй Панін быў знойдзены мёртвым раніцай 7 сакавіка ў кватэры на Балаклаўскім праспекце. Да гэтага акцёр некалькі дзён не выходзіў на сувязь, і адзін з знаёмых адправіўся яго адведаць. Калі ён увайшоў у кватэру, Панін ляжаў мёртвым на падлозе.

Эксперты, якія праводзілі ўскрыццё, усталявалі, што прычынай смерці вядомага акцёра Андрэя Паніна была чэрапна-мазгавая траўма. "У Следчы камітэт прыйшлі паперы, якія пацвярджаюць, што смерць наступіла ў выніку чэрапна-мазгавой траўмы", - паведамляе Lifenews.ru са спасылкай на крыніцу ў праваахоўных органах. Падрабязнасці стануць вядомыя пасля далейшых даследаванняў.

12 сакавіка ў МХТ ім. Чэхава адбылося развітанне з выдатным акцёрам Андрэем Паніным, а яго адпяванне прайшло ў царквы Ушэсця Славушчага, што ў Брюсавым завулку.

Не выпадкова развітанне прайшло на легендарнай сцэне Мастацкага тэатра. Андрэй Панін скончыў майстэрню Аляксандра Калягіна ў Школе-студыі МХАТ ў 1990 годзе. Ён быў прыняты ў мхатаўскую трупу, якой тады кіраваў Алег Яфрэмаў, адразу. І з першых прац у ім выявілася майстэрства. У "Барысе Гадунове", апошняй рабоце Алега Яфрэмава, ён гуляў Самазванца, у "Маленькіх трагедыях" - Скупога рыцара. Ён гуляў шмат, яго ўсюды звалі. І ўсё ж яго раман з тэатрам не склаўся. Ён сышоў са скандалам. А калі вярнуўся - у трыумфальнай чацвёрцы спектакля "Смяротны нумар", усё тое, што незразумела трапятала ў яго першых тэатральных досведах, прарвалася шумна і люта. У яго клоуна была галавакружная лёгкасць, не столькі камічны дар, колькі дар экcэнтрыка, усярэдзіне якога жыла нейкая зусім іншая - меланхалічная нота.

Пахаваны пяцідзесяцігадовы акцёр на Траекураўскіх могілках.

**Алена Юрынская**

СПАРТЫЎНАЯ НАВІНА

# РУХ НАЗАД

**На перадалімпійскім этапе ў Сочы Настасся Дубарэзава больш-менш годна выступіла ў спрынце, але праваліла індывідуальную гонку. Вынікам стала не траплянне ў камандную эстафету.**

На перадапошнім этапе Кубка свету па біятлону ў Сочы Дарья Домрачава перамагла ў індывідуальнай гонцы праследавання на 20 км, паказаўшы найлепшую хуткасць бегу. Пры двух промахах на чацвёртым рубяжы Домрачава апярэдзіла расіянку Вольгу Зайцаву на +34.6 сек., а Туру Бергер на +46.8 сек.

Наша Настасся Дубарэзава дапусціла недаравальна многа промахаў – аж сем! – і апынулася ў канцы шостага дзесятку ( 58-е месца) пры пятым выніку сярод удзельніц беларускай каманды. Пры гэтым па хуткасці бегу Настасся выйграла ў сваіх сяброўак па 1-2 мінуты. Наперадзе Дубарэзавай былі: Н. Скардзіна – 33-я, Л. Калінчык – 38-я, Н. Пісарава – 41-я.

У спрынце нечакана для усіх перамагла полька Магдалена Гвіздан, якая прайшла два агнявых рубяжа без промахаў і паказала добрую хуткасць бегу. Гвіздан апярэдзіла славачку Настассю Кузьміну (2-е месца) і Туру Бергер (3-е месца). Дарья Домрачава мела шанец перамагчы, калі б захавала сваю хуткасць на апошнім этапе спрынту пасля стральбы стоя, але ўжо сіл не засталося – у выніку 5-е месца. Настасся Дубарэзава палепшыла стральбу – дапусціла толькі два промахі на стойцы і заняла 33-е заліковае месца. У астатніх беларусак былі іншыя задачы. Надзея Пісарава не выйшла на старт, Надзея Скардзіна і Ірына Крыўко не фінішавалі, пакінуўшы дыстанцыю, а Людміла Калінчык заняла 53 месца, дапусціўшы два промахі.

У выніку ў эстафетнай гонцы месца Дубарэзавай па папярэдняй заяўцы на трэцім этапе заняла Надзея Пісарава, якую трэнеры пажадалі праверыць у эстафеце. Але надзеі трэнераў Пісарава не спраўдзіла, атрымаўшы аж два штрафных круга.

Пасля сочынскага этапа Кубка свету яшчэ больш павялічыўся адрыў Туры Бергер ад Дары Домрачавай. Наш лідэр у сваю чаргу павялічыла адрыў ад трэцяга месца, якое займае немка Андрэа Хенкель да 106 ачк.. Надзея Скардзіна па ранейшаму на 17-м месцы, у Людмілы Калінчык – 52-е, Н. Дубарэзавай – 53-е, Н. Пісарава – 61-е.

Апошні этап Кубка свету стартуе 14 сакавіка ў расійскім Ханты-Мансійску спрынтарскай гонкай у жанчын, потым будзе пасьют, а ў нядзелю адбудуцца апошнія гонкі з масавым стартам у мужчын і жанчын.

**Л. Антонаў**

МАЛАЙЦЫ!

# ВІЦЕБШЧЫНУ ПРАДСТАВЯЦЬ КАМАНДЫ ГАРАДКА

**На фінальных рэспубліканскіх спаборніцтвах "Залатая шайба" Віцебскую вобласць прадставяць дзве каманды Гарадка. Гэта стала вядома пасля перамогі ў вобласці і старэйшай групы каманды "Прамень".**

5 - 6 сакавіка на абласных спаборніцтвах сярод дзяцей і падлеткаў 1998 - 1999 года нараджэння па хакеі "Залатая шайба", якія праводзіліся ў віцебскім Палацы спорту, каманда «Прамень» з Гарадка заняла першае месца.

У спаборніцтвах прынялі ўдзел 6 каманд. У сваёй падгрупе «Прамень» упэўнена абгуляла каманды г. Віцебска (10:1) і г.п. Расоны (4:0). У фінале за першае месца наша каманда "Прамень" сустрэлася з камандай з г. Оршы і выйграла з лікам 2:0. Лепшым бамбардзірам спаборніцтваў прызнаны Аляксандр Якавіцкі, а абаронцам Дзяніс Чарткоў гульцы нашай каманды. Немалую ролю ў поспеху нашай каманды належыць трэнеру Аляксандру Якавіцкаму, які здолеў на аматарскай працы падрыхтаваць лепшыя дваровыя каманды Віцебшчыны.

Удзельнікі каманды былі ўзнагароджаны дыпломамі, медалямі, прызамі арганізатараў турніру. Каманда "Прамень" прадставіць Віцебскую вобласць на рэспубліканскіх спаборніцтвах, якія пройдуць 19 - 23 сакавіка ў г. Магілёве. Нагадаем, што дагэтуль нашыя гульцы двойчы баранілі гонар Віцебшчыны ў малодшай групе турніру "Залатая шайба". І Віцебшчына будзе мо адзіным рэгіёнам краіны, які прадставяць каманды з адкрытай лядовай пляцоўкі.

**Л. Антонаў**

НОВАЕ ВІДОВІШЧА

# ПРАГЛЯД ФІЛЬМАЎ У 5D ФАРМАЦЕ ПАЧАЎСЯ

**З 14 сакавіка ў Доме культуры г. Гарадка дзейнічае прагляд фільмаў у 5D фармаце. Гледачы могуць адчуць на сабе дзеянне пятага вымярэння.**

5D фармат - гэта працяг ўжо вядомага 3D фармату кіно - аб'ёмнае суперсучаснае малюнак, дасягаемае за кошт паўкруглага 120 градуснага экрана і стэрэагук. У 5D кінатэатры эфект прысутнасці гледача фармуецца не толькі за кошт аб'ёмнага малюнка, але і за кошт іншых спецэфектаў. Гледачоў садзяць на спецыяльныя крэслы з рухавікамі, фарсункамі, дадатковымі акустычнымі сістэмамі. Таксама ў зале могуць быць устаноўлены асобныя генератары паху (прывітанне, 4D!), святла (для імітацыі маланак) і іншых спецэфектаў. Мэта - даць гледачу адчуць пятае вымярэнне. Іншымі словамі, крэсла можа перадаваць адчуванні падзення ў бездань, паскарэнне. Глядач ў такім кінатэатры адчувае на сабе сапраўдную навальніцу з маланкамі, шквалістым ветрам, дажджом, можа палётаць ў небе, паплаваць у моры, паганяць на спартовых матацыклах і інш.

Усяго для прагляду прапануецца каля 20 фільмаў, зробленых са спецэфектамі фармата 5D зробленых у жанры фантастыкі, прыгодаў, трылера, жахаў і г.д. Працягласць сеанса невялікая ад 3хв.30 сек. да 6 хвілін. Такая працягласць здароўю не пашкодзіць, але для цяжарных, дзяцей да шасці гадоў і адвеадаўшых алкаголю прагляд не рэкамендуецца.

Кошт аднаго сеансу складае 15 тысяч рублёў. Максімальная колькасць наведвальнікаў зала 5D – чатыры гледача, але фільм пакажуць і для аднаго гледача. У першы дзень прагляду фільмаў быў дастаткова вялікі наплыў гледачоў, пераважна школьнага ўзросту.

**Л. Антонаў.**

КРЫМІНАЛ

# ЗНОЎ СКРАЛІ ГРОШЫ У ВІЦЕБСКУ. АЛЕ ЎЖО З ГВАЛТАМ.

**У непрацуючага жыхара Гарадоцкага раёна пасля жаночага свята адкрытавыкралі грошы ў Віцебску. Як звычайна гэта адбылося пасля сумеснага распівання спіртных напояў.**

Раней мы паведамлялі, што ў жыхара Гарадоцкага раёна скралі баксы напярэдадні мужчынскага свята. Амаль аналагічнае здарэнне адбылося і пасля жаночага свята.

Паводле інфармацыі прэс-службы Віцебскага абласнога ўпраўлення МУС 10 сакавіка ў 20 гадзін ўКастрычніцкі РАУС г. Віцебска звярнуўся непрацуючы саракапяцігадовы жыхар Гарадоцкага раёна. Жыхар Гарадоччыны паведаміў, што 9 сакавіка з раніцы ён сумесна распіваў спіртныя напоі на кватэры непрацуючага мясцовага жыхара. Каля 14 гадзін гэты нагляднa знаёмы субутэльнік з ужываннем фізічнай сілы адкрыта выкраў у яго грошы ў суме 1 млн. 150 тыс. рублёў.

Супрацоўнікамі АКВ РАУС папярэдне ўстаноўлена, што злачынства здзейсніў непрацуючы 1985 года нараджэння. АСК ўзбуджана крымінальная справа па арт. 206 ч. 2 КК. Па гэтаму артыкулу Крымінальнага кодэксу "Рабаванне" прыдугледжана абмежаванне волі да пяці гадоў або пазбаўленне волі ад двух да шасці гадоў.

**Т. Гаражанка**

# ПАЎТОРНАЕ БРАКАНЬЕРСТВА ЎЖО КРЫМІНАЛЬНАЕ ЗЛАЧЫНСТВА

**Супрацоўнікі Гарадоцкай міжрайінспекцыі накіравалі ў пракуратуру Гарадоцкага раёна матэрыялы для ўзбуджэння крымінальнай справы за паўторнаебраканьерства стаўной сеткай.**

Паводле інфармацыі прэс-службы Дзяржінспекцыі 21 лютага работнікі Гарадоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету на возеры Белае затрымалі мясцовага жыхара, які лавіў рыбу стаўнай сеткай. Пры разглядзе абставін браканьерства высветлілася, што тыднем раней гэты грамадзянін таксама затрымліваўся інспектарамі за здабычу рыбы забароненымі прыладамі лоўлі. Але самае галоўнае, што ў ліпені 2012 за аналагічнае парушэнне мужчына ўжо прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці. Адпаведна дзеянні мужчына падпадаюць пад крымінальную адказнасць.

Матэрыялы аб чарговым правапарушэнні накіраваны ў пракуратуру Гарадоцкага раёна для ўзбуджэння крымінальнай справы па ч. 1 арт. 281 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Пакаранне па гэтаму артыкулу прыдугледжана, як штраф, так і выпраўленчыя працы да двух гадоў або арышт на тэрмін да шасці месяцаў.

**Т. Гаражанка**

ЗАМЕЖНАЕ ПЫТАННЕ

## ЦІ З'ЯВІЦЦА Ў МІНСКУ
# ТУПІК ІМЯ ЧАВЕСА?

**Абвяшчэнне ў Беларусі жалобы з нагоды смерці прэзідэнта Венесуэлы — чарговая бязглуздзіца.**

Гэтая падзея сенсацыяй не стала. Пра хваробу Чавеса весь свет ведаў ужо даўно. Са снежня мінулага года прэзідэнт Венесуэлы не паказваўся на публіцы. Таму было зразумела, што неўзабаве ён сканае.

Уга Чавес быў адным з найбліжэйшых палітычных сяброў Аляксандра Лукашэнкі. Сышліся яны на глебе антыамерыканізму. Потым распачалі сумесны бізнес. Гістарычным анекдотам застануцца пастаўкі нафты з Венесуэлы ў Беларусь танкерамі цераз палову свету: сыравіна атрымлівалася надзвычай дарагой. Страты, якія ў выніку панесла наша краіна, адыгралі ролю аднаго з чыннікаў рэкорднай дэвальвацыі 2011 года.

Дарэчы, венесуэльская валюта — балівар — абвальвалася 5 разоў за апошнія 9 год.

Таксама Чавес з Лукашэнкам будавалі аграгарадкі ў Венесуэле, ладзілі сумесныя прадпрыемствы па выпуску трактароў і займаліся зусім ужо таямнічымі аперацыямі са зброяй. Хадзілі чуткі, што кіраўнік Беларусі на ўсякі выпадак рыхтуе сабе ў гэтай лацінаамерыканскай краіне "запасны аэрадром".

Таму смерць Чавеса аказалася моцным ударам для Лукашэнкі. Ён нават распаўсюдзіў зварот да грамадзян Беларусі і прадстаўнікоў сусветнай супольнасці: "Мы, не сдерживая слез, скорбим вместе с венесуэльским народом, оплакивая безвременную смерть Уго Чавеса... Под руководством Уго Чавеса, наследника и продолжателя священного дела Симона Боливара, Венесуэла сбросила ненавистное ярмо отсталости и нищеты, освободилась от политического и экономического гнёта иноземных держав. Президент Чавес сильной, твёрдой рукой уверенно вёл родную страну к свободе и счастью. Он был и, я уверен, навсегда останется для миллионов людей истинным отцом венесуэльской нации".

Стваараецца такое ўражанне, што Лукашэнка, гаворачы пра Чавеса, падсвядома мае на ўвазе і сябе: "сильнойрукой вёл страну к счастью", "останется истинным отцом нации"...

Пэўна, фармальнасць

Абвешчана, што Беларусь далучылася да жалобных мерапрыемстваў. Аднак гэта выглядае глупствам, бо абсалютная большасць нашых грамадзян абыякавая да Уга Чавеса, тым больш напярэдадні 8 Сакавіка. Цяжка ўявіць, каб беларусы замест традыцыйных святкаванняў раптам абрынуліся ў сум і тугу па прычыне таго, што памёр прэзідэнт Венесуэлы.

Таму жалоба ў Беларусі застанецца фармальнасцю: прыспушчаны дзяржаўныя сцягі і перагледжана праграма тэлеканалаў. Але нават гэтым Лукашэнка чарговы раз засведчыў свае прыярытэты. Калі памёр Васіль Быкаў, жалоба наогул не абвяшчалася. Калі здарыўся тэракт у мінскім метро, яна доўжылася адзін дзень. А цяпер — ажно тры!

Да таго ж беларускія ўлады збіраюцца перайменаваць адну з цэнтральных вуліц у Мінску, надаўшы ёй імя Чавеса. Але было б куды мэтазгодней знайсці для гэтай мэты тупік, бо насамрэч краіна, якой Чавес кіраваў амаль 15 год, маючы вялізныя нафтавыя рэсурсы, з'яўляецца адной з самых бедных у рэгіёне. А злачыннасць у Венесуэле такая, што нават у сталіцы іншаземцам не раюць выходзіць на вуліцы без аховы.

Прыклад Чавеса сведчыць пра тое, што аўтарытарная ўлада не здольна вырашыць праблемы дзяржавы і грамадства. Гэта галоўны ўрок, які варта засвоіць і венесуэльцам, і беларусам.

**Валянцін СЫЧ**
**www.svabodaby.net**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

## ПАТРЭБНА "ДАРОЖНАЯ МАПА" ПАКРОКАВАГА ЗБЛІЖЭННЯ
# БЕЛАРУСІ І ЕЎРАСАЮЗУ

**Старшыня Руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч 7-8 сакавіка ўзяў удзел у сустрэчы лідараў і кіраўнікоў нацыянальных дэлегацый Еўрапейскай народнай партыі ў Афінах. У прыватнасці, палітык выступіў з прамовай падчас дыскусіі аб паглыбленні адносін Еўрасаюзу з іншымі краінамі на ўсходнім кірунку. Разам з Аляксандрам Мілінкевічам ад Украіны выступаў Віталь Клічко, лідар партыі "УДАР".**

"Нягледзячы на тое што для ЕС цяпер галоўная праблема - эканамічная сітуацыя ў Грэцыі, Іспаніі, Італіі, на гэтай сустрэчы ўсё роўна арганізуецца адмысловае абмеркаванне ўсходняй палітыкі: як умацаваць незалежнасць постсавецкіх рэспублік і спрыяць рэформам. Гэта добры знак для нас", - так Мілінкевіч пракаментаваў дыскусію.

У сваёй прамове падчас яе лідар Руху "За Свабоду" зазначыў, што ў выніку эканамічных праблем, у тым ліку праз пагаршэнне пазіцый на расійскім рынку, улады Беларусі вымушаны аднаўляць стасункі з Еўрапейскім Саюзам, бо для Беларусі важна павелічэнне экспарту ў краіны ЕС і пошук мадэрнізацыйных тэхналогій.

Пры гэтым палітык заявіў, што ў беларускім урадзе ёсць міністры, якія разумеюць неабходнасць эканамічнай лібералізацыі і прыватызацыі: "Аднак Аляксандр Лукашэнка стрымлівае структурныя рэформы. Спробы ж мадэрнізацыі пры захаванні жорскага камандна-адміністрацыйнага кантролю наўрад ці прывядуць да плённых вынікаў".

"Нягледзячы на тое, што цяперашнія ўлады Беларусі паказалі сябе непаслядоўным і складаным партнёрам і што патэнцыял дыялогу паміж ЕС і Беларуссю вельмі абмежаваны, тым не менш ён можа прывесці да змяншэння рэпрэсій, павелічэння праеўрапейскіх настрояў у беларускім грамадстве, пашырэння вакна магчымасцяў для грамадзянскай супольнасці, а таксама лібералізацыі эканамічнага жыцця. Любы пазітыўны крок у бок Захаду лепш, чым крокі, што вядуць да ўзмацнення залежнасці ад Расіі і страты суверэнітэту", - сказаў Аляксандр Мілінкевіч у Афінах.

Слушным лідару Руху "За Свабоду" ўяўляецца "ажыццяўленне дыялогу праз "дарожную мапу" пакрокавага збліжэння, дзе галоўная мэта – заваёвы розумаў і сэрцаў беларусаў". Напрыклад, праз спрашчэнне візавага рэжыму з ЕС па прыкладзе Польшчы і Літвы: "Апошнімі гадамі, нягледзячы на самаізаляцыю рэжыму, колькасць паездак беларусаў у краіны ЕС вырасла ў некалькі разоў. Гэта прынесла эканамічныя выгады нашым суседзям і не прывяло да ўсплёску нелегальнай міграцыі".

Разам з тым асаблівa Мілінкевіч падкрэсліў, што "бясспрэчнай перадумовай для дыялогу застаецца вызваленне ўсіх палітычных зняволеных".

**Прэс-служба "Рух "За Свабоду!"**

МАДЭРНІЗАЦЫЯ

# НА МАДЭРНІЗАЦЫЮ «РАСКРУЦЯЦЬ» ПРЫВАТНІКАЎ

**Мадэрнізацыя прадпрыемстваў, абвешчаная прыярытэтнай задачай, можа цяжкім грузам легчы на прыватны бізнэс. Такую заклапочанасць выказваюць эксперты, аналізуючы апошнія заявы кіраўніка дзяржавы.**

Эксперты падкрэсліваюць: кампанія мадэрнізацыі бывае паспяховай толькі тады, калі прадпрымальнікі займаюцца ёю добраахвотна, не баючыся страціць укладзены ў прадпрыемства капітал.

На сустрэчы 26 лютага з сябрамі новага Савета па развіццю прадпрымальніцтва пры прэзідэнце, Аляксандр Лукашэнка заявіў: мадэрнізацыя эканомікі з'яўляецца задачай не толькі дзяржаўнага сектара. У яе рашэнне неабходна ўключыць ўвесь айчынны бізнес і максімальную колькасць замежных інвестараў.

Кіраўнік дзяржавы таксама чакае ад прадпрымальнікаў большай актыўнасці ў дабрачыннай дзейнасці. «Ніхто не кажа, што ў вас трэба забраць апошняе. Але калі бачыце, што можна дапамагчы дзіцячаму дому, спорту, аховы здароўя, адукацыі, што стварае базу для жыцця чалавека, так давайце дапаможам разам », - заклікаў Лукашэнка.

Пры гэтым, лічыць Лукашэнка, яго нельга папракнуць у тым, што ён гвалтам прымушае прадпрымальнікаў дапамагаць дзяржаве. «Можаце - дапамажыце, не можаце - Бог з вамі. Адпаведнае будзе стаўленне з боку дзяржавы і мяне да вас », - папярэдзіў ён.

**Раней навязвалі стратныя калгасы, цяпер - фабрыкі і заводы**

Эканамісту і прадпрымальніку Льву Марголіну сітуацыя нагадвае падзеі не гэтак аддаленыя, калі за прадпрыемствамі, у тым ліку прыватнымі, замацоўваліся стратныя калгасы.

«Тады прадпрымальнікаў змушалі падымаць сельскую гаспадарку, цяпер хочуць навязаць мадэрнізацыю. Прычына зразумелая: у дзяржавы папросту няма сродкаў, неабходных для правядзення маштабнай мадэрнізацыі прамысловасці», - адзначыў Марголін у каментары для БелаПАН.

Аднак эксперт не думае, што прыватны бізнэс будзе рады перспектыве быць уцягнутым у гэты працэс.

«Вядома, у нас у краіне ёсць розныя бізнесмены. Ёсць так званы прыдворны бізнэс, які, думаю, стане актыўным удзельнікам мадэрнізацыі і нават будзе задаволены. Яму аддадуць нейкія прадпрыемствы, ён іх прывядзе ў парадак і будзе карыстацца вынікамі », - мяркуе Марголін.

Што ж тычыцца большасці прыватных бізнэсоўцаў, то ім дзяржава наўрад ці прапануе нейкія прывабныя ўмовы.

«Хутчэй за ўсё, гэта будзе рабіцца па «добраахвотна-абавязковаму» прынцыпу. Цяпер мясцовыя ўлады, па сутнасці, вымагаюць ў прыватнага бізнесу сродкі на рамонт дарог, школ, дзіцячых садоў. Падобна на тое, менавіта так будзе вырашацца і пытанне мадэрнізацыі ", - прагназуе эканаміст.

**Льготнага продажу прадпрыемстваў не будзе. Нават стратных**

Зацікавіць бізнесменаў можна было б удзелам у прыватызацыі.

Магчыма, на гэта і разлічваў Міністэрства эканомікі, якое падрыхтавала пералік з 800 прадпрыемстваў, прапанаваных для продажу замежным і айчынным інвестарам.

Гэтыя малапрыбытковыя альбо стратныя прадпрыемствы з невялікім лікам работнікаў аналітыкі рэкамендавалі прадаць прадпрымальнікам па чыста сімвалічнай цане.

Аднак Лукашэнка ўжо выказаўся аб гэтай ініцыятыве ў негатыўным ключы. «Зацыкліліся на прыватызацыі і разумееце прамыя замежныя інвестыцыі выключна як продаж дзяржаўнай уласнасці. Вось зноў у інтэрнэце абмяркоўваюць нейкія новыя прыватызацыйныя спісы », - заявіў ён на пасяджэнні Савета міністраў.

Ніякай «кампанейшчыны з продажам не будзе», - папярэдзіў кіраўнік дзяржавы. «Прынцып вядомы: хочаш купіць - плаці поўную цану і яшчэ вазьмі абавязацельствы ўкласці грошы ў вытворчасць, захаваць працоўныя месцы, забяспечыць людзям дастойную заработную плату і рост паступленняў падаткаў у бюджэт», - заявіў Лукашэнка.

А трыма днямі раней, на сустрэчы з бізнесменамі, ён катэгарычна запатрабаваў спыніць "балбатаць аб прыватызацыі».

«Гэта становіцца для нас шкодным, і мяне ўжо пачынае насцярожваць. Як быццам у Мінэканоміцы, ва ўрадзе няма пра што гаварыць, як толькі аб прыватызацыі », - абурыўся Лукашэнка.

Пры гэтым ён удакладніў: «прыватызацыі - быць», але «цэны будуць вельмі высокія, рынкавыя».

**Эксперты: шырокая прыватызацыя ўлады не выгадная**

На думку эканаміста, «Ліберальнага клуба" Антона Балточка, ніякай масавай прыватызацыі ў Беларусі быць не можа. «Лукашэнка не дапусціць. Уласнасць - гэта залог яго ўлады, таму ён ніколі ня пойдзе на змену ўласніка », - пераканаы эксперт. Па прагнозах Балточка, да канца гэтага года магчыма толькі чакаць продажу якога-небудзь прадпрыемства з ліку фамільнага срэбра.

Леў Марголін, у сваю чаргу, падкрэслівае: важна, як будзе праводзіцца гэты продаж.

«Можна зрабіць так, як калісьці рабілі ў Нямеччыне: бесперспектыўныя прадпрыемствы прадавалі па чыста ўмоўнай цане. А можна прадаваць, як у Беларусі - на аўкцыёнах па рэшткавым або ацэначным кошце. Пры гэтым чыноўнікі яшчэ будуць навязваць бізнэсоўцу свае правілы гульні: будаўніцтва спартыўных збудаванняў і іншых сацаб'ектаў. У такім выпадку я моцна сумняюся, што 800 прадпрыемстваў знойдуць сваіх новых уласнікаў », - кажа Марголін.

**Ірына Леўшына**
**БЕЛАПАН**

ВОДГУК ТРАГЕДЫІ

# «У ЭТОЙ ТРАГЕДИИ ЕСТЬ ЕЩЕ ОДИН АСПЕКТ...»

**У трагедии с погибшим прямо возле школы под колесами авто Владиком Грудьевым случилось продолжение. Родственники претендуют на крупную моральную компенсацию и по закону имеют на это полное право.**

Но если говорить не только о законе, то в этой истории еще сказано не обо всем.

Юрий Зиссер правильно сформулировал, что изначально это трагическое происшествие было воспринято с точки зрения "презумпции виновности богатых". Хотя понятно, что в той ситуации мог оказаться абсолютно любой водитель и абсолютно любой ребенок. Потому что нельзя экономить на ограде школ, на освещении территорий, где в вечернее время много детей; нельзя устраивать проезды прямо по школьному двору или спокойно взирать на такие "запрещенные проезды", которым нет альтернативы. Теперь даже ГАИшники намекают, что приговор водителю мог бы быть иным, вот только виноват адвокат...

Но не говорят о другом.

Мне приходилось сталкиваться с ситуациями, когда люди настолько хотели наказания за смерть в ДТП своих близких, что становились просто одержимы этой идеей. Помню, родственника одной нашей сотрудницы мы вместе с его адвокатом просто уговаривали согласиться на денежную компенсацию, потому что смерти его жены водитель очевидно не хотел, не мог ее предвидеть и предотвратить. Но человек твердо стоял на своем: "Не возьму ни копейки, буду добиваться тюрьмы". (Кстати, в итоге от денег, которые водитель ему сам предлагал, отказался, но и тюрьмы для него не добился.)

В ситуации с Владиком родственники сразу взяли деньги. Потом, когда водителя арестовали, мама Владика даже обещала пойти к следователю и написать ходатайство, чтобы его освободили. Но почему-то не дошла. Тем не менее, на суде водитель заявил, что чем бы ни закончился процесс, он обязуется помогать этой женщине, сколько будет жить. Это впечатлило даже судью. Она несколько раз спрашивала: "Потерпевшие, что вы скажете, от этого зависит приговор?" Потерпевшие попросили осудить по всей строгости.

Осудили. Приговор - четыре года.

Теперь мама, бабушка и дедушка погибшего Владика хотят еще 400 миллионов рублей в качестве компенсации морального ущерба. Будто в колонии несчастный водитель, тоже ставший жертвой этой трагедии, может заработать такие деньги.

Если в данном случае именно деньги помогут облегчить горе матери, у которой погиб единственный сын, давайте все вместе скинемся, потому что вопрос не в деньгах. И даже не в сроке заключения для водителя. Поскольку ни одно, ни другое принципиально ни на что не влияют.

У этой трагедии есть еще один аспект, о котором все почему-то молчат. Причем, в странах, где существует ювенальная юстиция, именно он вышел бы на первый план. Главными были бы не водитель, не марка его машины, не дорога и не то, правильно ли были расставлены дорожные знаки. Главным был бы вопрос: как получилось, что ребенок находился на улице без сопровождения взрослых. Да еще поздней осенью! Да еще в темное время суток! Там за такое наказывают именно родителей. Вплоть до лишения родительских прав.

Но у нас 7-8-9-летние дети учатся во вторую смену и никому в голову не приходит, что таких "серьезных и самостоятельных" после занятий еще должны встречать взрослые (особенно, зимой и поздней осенью, когда ребенок из школы выходит в абсолютную темноту).

У нас борются с подростками, которые после 22.00 находятся на улице, хотя летом в это время еще совсем светло, самое время погулять после уроков-секций-репетиций. Но никто не ставит вопрос о малышне, которая одна возвращается из школы и даже просто шляется по улицам. Вот и в день, когда случилась трагедия, мама третьеклассника-Владика была дома. Но почему-то не пришла встретить сына из школы. Хотя, как теперь выясняется, все знали, что ходить там очень опасно из-за машин.

Обо всем говорили, обсуждая эту трагедию. Меры приняли. Водителя наказали. Из учителей на некоторое время сделали стоп-менов. Милицию по утрам к школам пригоняют. Но вот принять за правило, что детей до 10 лет из школы обязательно должны встречать взрослые, тем более если дети учатся во вторую смену, не решился никто. Хотя именно то обстоятельство, что младшие школьники бодяются по улице одни, чаще всего и становится причиной трагедий. У нас только из детского сада ребенка надо обязательно забрать. И как-то все забирают, справляются. В школах с родителей просто берут расписку о том, что если с ребенком что-либо случится после занятий, претензий к учебному заведению никто иметь не будет. И все! Идите, дети, с миром, куда хотите! Будто расписка способна вернуть ребенка или предотвратить беду...

Забирала ли я своего сына из школы? Да, он сидел в продленке до тех пор, пока я или муж, или бабушка, или кто-нибудь из моих подруг не освобождался после работы, чтобы его забрать. Но если не все родители понимают, что в 7, 8, 9, 10 лет ребенок еще не настолько взрослый, чтобы одному находиться на улице в темное время суток, то, наверное, надо принимать закон. Чтобы не только заборы отвечали за детей, не только шлагбаумы и дорожные знаки. А все-таки родители.

**Светлана Калинкина, «Народная воля»**

НАША ЎЛАДА

# АЎТАПАРК ВІЦЕБСКАГА АБЛВЫКАНКАМА ПАШЫРАЕЦЦА

**Віцебскі аблвыканкам у Год беражлівасці купляе мікрааўтобус за 70 000 даляраў і абвяшчае тэндэр на абслугоўванне амаль сарака аўтамабіляў**

Віцебскі абласны выканаўчы камітэт размясціў тэндэр на куплю мікрааўтобуса «Volkswagen Caravelle Comfortline». Кошт у тэндэры не паказаны, але, калі верыць, сайтам афіцыйных прадстаўнікоў Volkswagen аўтамабілі з падобнай камплектацыяй каштуюць ад 70 000 даляраў.



Згодна з патрабаваннямі закупкі мікрааўтобус павінен быць з доўгай базай, мець 2-літровы бензінавы рухавік TSI магутнасцю 150 кВт, 7-ступеністую аўтаматычную каробку перадач і поўны прывад. Таксама чыноўнікам аблвыканкама неабходныя таніраванае шкла і аўдыёсістэма з 8-ю дынамікамі. Новы «Volkswagen Caravelle Comfortline» колеру серабрысты перламутр будзе разлічаны на перавозку 9 пасажыраў.

Не менш цікавы другі тэндэр, аб'яўлены Віцебскім аблвыканкамам у той жа дзень - на абслугоўванне аўтапарка. Гэты дакумент дазваляе чытачам «Народных навінаў Віцебску» азнаёміцца з мадэльным радам аблвыканкамаўскага гаража.

Прыводзім мадэлі аўтамабіляў заяўленых на абслугоўванне ў 2013 годзе: старшынёўская «AUDI A8 W12» (мадэль 2010 года), «Toyota Land-Cruiser 100» 2006 года выпуску (на ёй таксама калісьці перасоўваўся старшыня), «Toyota Avensis» 2007 і 2008 гадоў выпуску, «Volkswagen Touareg» 2003 і 2008 гадоў выпуску, «Volkswagen Passat B5» 2003 і 2004 гадоў, «Volkswagen Passat B6» 2006, 2007 і 2008 гадоў, «Volkswagen Sharan» 2007 года, «Volkswagen Shuttl» 2004 года, « Volkswagen Caravelle »2010 і 2013 гадоў выпуску,« Skoda Superb Ambition »2010 года,« Skoda Superb Comfort »2004 года,« Skoda Oktavia »2006 года,« Volvo S80 »2007 года,« Volvo 940 »1996 года,« KIA Sportage » 2006 года, «KIA Magentis» 2006 года, «Mazda 6» 2002 года, «Ford Transit» 1990 і 1996 гадоў выпуску,«ГАЗ-3102» 2004 і 2005 гадоў, «ГАЗ-31.105» 2004, 2005 і 2007 гадоў, « ГАЗ-32.213 »2002 года.

Некаторыя аўтамабілі з гэтага спісу прадстаўлены ў некалькіх экземплярах, напрыклад, «Toyota Land-Cruiser 100» і «Skoda Superb Ambition» у тэндэры паказаны па тры адзінкі.

**Сяржук Серабро**
**"Народныя навіны Віцебска"**

ТАК ЖЫЦЬ!

# ДОМ ДЛЯ СТАРШЫНІ ЗАМЕСТ МУЗЕЯ

**Тэрыторыя рэзідэнцыі ў так званым "ціхім цэнтры" Віцебска вельмі вялікая: пад знос ужо пайшлі парнікі ветакадэміі. На чарзе - гістарычны будынак канца 19-га - пачатку 20-га стагоддзя, з якога летам выселілі Музей прыватных калекцый.**

У Віцебску ў канцы 1-ій вуліцы імя Даватара хуткімі тэмпамі ўзводзіцца новы будынак. Пляцоўка абнесена плотам, але звыклага ў такіх выпадках «Пашпарта аб'екта будоўлі» на ім няма. Зрэшты, усе навакольныя жыхары ведаюць: тут будуюць рэзыдэнцыю для старшыні аблвыканкаму, паведамляе радыё "Свабода".

Тэрыторыя рэзыдэнцыі ў так званым «ціхім цэнтры» Віцебску будзе даволі вялікая. Таму пад знос ужо пайшлі парнікі — маёмасьць вэтэрынарнай акадэміі. На чарзе — гістарычны будынак канца 19-га — пачатку 20-га стагодзьдзя, зь якога ўлетку выселілі Музэй прыватных калекцый.

Віцебскі Музэй прыватных калекцый быў адзіны ў Беларусі. А сёньня да гэтага будынка не падысьці: за стогадовым плотам з чырвонай цэглы будуецца двухпавярховы дом. Былы музэй з усіх бакоў завалены будматэрыяламі, і рабочыя-будаўнікі апавядаюць цікаўным пра пэрспэктывы ягонага зносу.

Самыя цікаўныя — гэта студэнты вэтэрынарнай акадэміі. Яе інтэрнаты зусім побач, і ўсіх цікавіць, што робіцца за плотам, кажа студэнтка Ларыса: «Мы туды хадзілі гуляць, хацелі пафатаграфавацца, а там — будоўля. Няма ніякай шыльды, што гэта будуюць. І дзядзька з сабакам гэтую будоўлю ахоўвае. Прыйшлі ў інтэрнат, распавядаем… А ўсе кажуць: „Чаго вы там поўзаеце? Гэта ж дом губэрнатару будуюць!" Мы зьдзівіліся: якому губэрнатару? Аказваецца, нашаму Косінцу. Нам стала цікава, мы пайшлі да будаўнікоў, пахіхікалі зь імі, яны і апавялі. Маўляў, сапраўды дом для губэрнатара. Пытаемся: „Чаму такі маленькі?" Яны кажуць: „Гэта толькі два паверхі над зямлёй, а ўнізе яшчэ адзін, там басэйн будзе"… Ну, мы ўжо ня сталі пытацца, ці пусьцяць нас туды купацца. Напэўна ж, не…»

Удакладніць нешта пра пэрспэктывы будаўніцтва — немагчыма. Абавязковы для кожнага будаўнічага аб'екта «пашпарт» — шыльда, дзе пазначаюць назву, плян і будучы зьнешні выгляд будынка — адсутнічае...

Старшыня аблвыканкаму Аляксандар Косінец пакуль што жыве ў звычайным дзевяціпавярховіку. Адно, што там незвычайнага — у пад'езьдзе дзяжурыць міліцыя.

Што да Музэю прыватных калекцый, то сьпярша ў Віцебску меркавалі, што новая губэрнатарская рэзыдэнцыя будзе менавіта ў ім. Дарэчы, у гэтым будынку некалі жыў кіраўнік пазямельна-сялянскага банку, а пасьля Вялікай Айчыннай вайны — першыя сакратары абкаму КПБ.

Пра верагодны працяг савецкай завядзёнкі мясцовыя жыхары загаварылі, калі мінулым летам адбылося тэрміновае высяленьне Музэю прыватных калекцый. Старшыня абласной арганізацыі ТБМ Ёсіф Навумчык адным зь першых паспрабаваў высьветліць прычыны: «Я пытаўся ў супрацоўнікаў, ці ня здарылася ў іх чаго. Казалі, што — нічога не цячэ, не развальваецца, і раптам — «аварыйны стан». Я потым і зь міністрам культуры размаўляў праз тэлефон. Латушка тады сказаў: «Мы, вядома, за Музэй прыватных калекцый. Але гэта ня наша маёмасьць, а абласная. І мне сказалі, што будынак у аварыйным стане».

Музэй прыватных калекцый праіснаваў 19 гадоў. Яго адчынілі 22 ліпеня 1993 году, у першы дзень «Славянскага базару». А на другі дзень апошняга фэстывалю экспанаты тэрмінова перавозілі ў Віцебскі абласны краязнаўчы музэй, вызваляючы памяшканьне. Наконт рамонту нібыта «аварыйнага» музэйнага будынку пытаньне так і не паўстала. Затое побач узводзіцца новы гмах — рэзыдэнцыя для губэрнатара. І ўсё, што замінае — ідзе пад знос.

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 17.03.2013 у 15.35.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.